№ 8 (3749)

29 студзеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простар, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**



ОТВЕТ ИЗ БРЮССЕЛЯ

## *Штефан ФЮЛЕ, комиссар Евросоюза:* *«Мы надеемся, что белорусские власти присоединятся»*

Основные идеи стратегии "За диалог и консолидацию" Анатолий Левкович изложил не только читателям "Народной Воли", но и направил в офис комиссара Евросоюза по расширению и добрососедству Штефана Фюле.

Ответ из Брюсселя пришел вполне положительный. Вот он:

"Мне было интересно ознакомиться с основными целями и задачами Вашей ассоциации и эволюционными трансформациями, которые Вы видите для Беларуси. Для будущего Беларуси действительно необходимо выстроить сильную плюралистическую линию в политике, поддерживать все каналы общения открытыми и вовлекать все стороны в конструктивный диалог. Именно белорусский народ через вовлеченность в демократический процесс сможет модернизировать свою страну.

В конце марта 2012 г. начат диалог с белорусским обществом о модернизации. Этот диалог состоит из обмена мнениями и идеями между представителями белорусского гражданского общества, политической оппозиции и ЕС. Обсуждения вращаются вокруг необходимых реформ для модернизации Беларуси и развития отношений с ЕС. Повестка дня предложена представителями белорусского общества, учитывая потребности белорусских граждан. Диалог находит широкий отклик в белорусских СМИ, и мы надеемся, что это способствует более плодотворным обсуждениям в Минске и на региональных уровнях. Мы надеемся, что белорусские власти скоро присоединятся к диалогу.

Для содействия контактам между людьми ЕС также пригласил Беларусь начать переговоры о визовой поддержке и пересмотра соглашений с целью облегчить белорусским гражданам посещение ЕС. Из-за отсутствия ответа от белорусских властей страны-участницы ЕС в настоящее время используют существующую гибкость, которую позволяет визовая политика ЕС, что дает возможность облегчить получение виз для населения. Мы усиленно работаем вместе со странами-членами ЕС над вопросами о визах длительного пребывания и видов на жительство в соответствии с национальными законами.

Желаем вашей ассоциации всего наилучшего в ее демократических попытках!"

ПАЗІЦЫЯ

## *Гюнтэр ФЕРХОЙГЕН:* *«Будзе вельмі шкада, калі ў вас не атрымаецца пераадолець працэс стагнацыі, які ўжо зацягнуўся»*

У Мінску адбылася дыскусія на тэму "Сучаснасць і будучыня Еўрапейскага Саюза". Удзел у ёй прымаў былы віцэ-прэзідэнт Еўракамісіі Гюнтэр Ферхойген, які ўпершыню наведаў Беларусь.

*"Энергетычная палітыка — найбольш важнае пытанне для эканомікі і палітыкі ЕС у будучым,* — прызнаў спадар Ферхойген. — *Беларусь і Украіна маюць рэсурсы і патэнцыял, таму для нас гэта вельмі важныя краіны. Аднак я пагаджуся, што ЕС не мае дакладнай стратэгіі адносна Беларусі. Гэтаксама мы не маем стратэгіі адносна Расіі, Украіны і нават ЗША і Кітая. Справа ў тым, што знешняя палітыка не з'яўляецца інтэграцыйнай. Дзяржавы-члены вырашаюць гэтыя пытанні на сваім узроўні.*

*У Еўропе ўсе разумеюць, што нам патрэбны дыялог з Беларуссю. Аднак ваш урад павінен зрабіць крокі наперад. Умовы аднаўлення дыялогу ўсім вядомыя — палітычная і эканамічная лібералізацыя, правы чалавека. Са свайго досведу магу сказаць, што, калі краіна ідзе на станоўчыя змены, Еўрасаюз заўсёды гэта вітае. Камісар ЕС па пытаннях пашырэння і Еўрапейскай палітыкі суседства Штэфан Фюле ўвёў нават паняцце "больш за большае".*

Беларусь — еўрапейская краіна, беларусы — еўрапейцы. І будзе вельмі шкада, калі ў вас не атрымаецца пераадолець працэс стагнацыі, які ўжо зацягнуўся.

### ДА ВЕДАМА

Гюнтэр Ферхойген з 2004-га па 2010 год з'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Еўракамісіі і еўрапейскім камісарам па пытаннях прадпрымальніцтва і прамысловасці. У 1960-я вывучаў гісторыю, паліталогію і сацыялогію ва ўніверсітэтах Бона і Кёльна. Пачынаючы з канца 1960-х працаваў у апараце міністэрстваў унутраных і замежных спраў Германіі. У 1983 годзе стаў дэпутатам бундэстага, дзе ўдзельнічаў у рабоце парламенцкага камітэта па знешніх сувязях. У 1999-м Ферхойген стаў еўрапейскім камісарам па пашырэнні. Падчас ягонай працы на гэтай пасадзе ў Еўрасаюз былі прыняты 10 усходнееўрапейскіх дзяржаў. У камісіі Жазэ Мануэла Барозу, сфарміраванай у 2004 годзе, Ферхойген займаў пасаду камісара па пытаннях прадпрымальніцтва і прамысловасці, а таксама пасаду віцэ-прэзідэнта Еўракамісіі. У 2010-м пакінуў абноўлены склад Еўрапейскай камісіі. Цяпер з'яўляецца дырэктарам Каледжа імя Карла Фрыдрыха Гёрдэлера.

Дарэчы, знаёмства з беларускай публікай былы віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай камісіі пачаў з прэзентацыі адукацыйнай праграмы для маладых кіраўнікоў з краін Усходняй Еўропы "Каледж імя Карла Фрыдрыха Гёрдэлера — якасць дзяржаўнага і грамадскага кіравання". "Удзельнікі гэтай праграмы — краіны "Усходняга партнёрства" і Турцыя. *"Вельмі важным для нас з'яўляецца атрыманне заявак ад перспектыўных спецыялістаў з Беларусі. Прапанова актуальна як для супрацоўнікаў дзяржсектара, так і для недзяржаўных і іншых арганізацый",* — падкрэсліў Ферхойген.

ТАРЫФЫ

# З 1 лютага за святло і газ будзем плаціць дыферэнцыравана

Урэшце беларускі ўрад вызначыўся, як насельніцтва будзе плаціць за спажытыя электраэнергію і газ. Адпаведная пастанова Савета міністраў №52 з'явілася 23 студзеня 2013 года і ўступае ў сілу 1 лютага.



Згодна з пастановай, усталёўваецца трохступенчатая сістэма тарыфаў у залежнасці ад аб'ёмаў спажывання электраэнергіі і газу.

Так, для грамадзян, якія пражываюць у дамах, абсталяваных электрычнымі плітамі, пры штомесячным спажыванні да 250 кВтг электраэнергіі аплата будзе праводзіцца па тарыфах, устаноўленых заканадаўствам.

Пры спажыванні **ад 250 да 400 кВтг** уключна — па ўстаноўленых тарыфах з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 1,3, але не вышэй за тарыфы, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

Калі спажыванне электраэнергіі перавышае **400 кВтг** у месяц, аплата будзе вылічвацца па тарыфах, што забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

Для тых, чые дамы не абсталяваны электрычнымі плітамі, за некаторымі выключэннямі, прадугледжана аналагічная сістэма аплаты электраэнергіі.

Так, пры штомесячным спажыванні **да 150 кВтг** — па ўстаноўленых тарыфах, **ад 150 да 300 кВтг** уключна — па тарыфах з павышаючым каэфіцыентам 1,3, звыш **300 кВтг** — па тарыфах, што забяспечваюць поўнае пакрыццё выдаткаў.

Для грамадзян, дамы якіх не абсталяваны электраплітамі і сістэмамі цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і забеспячэння прыродным газам, пры спажыванні **да 300 кВтг** уключна прадугледжана аплата па ўстаноўленых тарыфах, **звыш 300 кВтг** — па тарыфах з павышаючым каэфіцыентам 1,3.

У адпаведнасці з дадзенай пастановай, грамадзяне, жылыя дамы (кватэры) якіх аснашчаны шматтарыфнымі электроннымі прыборамі ўліку электрычнай энергіі і аўтаматызаванымі сістэмамі кантролю і ўліку электраэнергіі, будуць браць аплату зыходзячы з дыферэнцыраваных па часавых перыядах тарыфаў або аднаставачным тарыфе з улікам парадку аплаты, прадугледжанай у пастанове.

Плата за паслугі электразабеспячэння з грамадзян, якія пражываюць у жылых дамах (кватэрах), не абсталяваных прыборамі індывідуальнага ўліку расходу электраэнергіі, у адпаведнасці з дакументам, будзе спаганяцца па ўсталяваным заканадаўствам тарыфе, які забяспечвае поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне (уступае ў сілу з 1 ліпеня 2013 года).

Што ж тычыцца аплаты за паслугі газазабеспячэння, то, згодна з пастановай, з грамадзян, якія пражываюць у жылых дамах (кватэрах), абсталяваных індывідуальнымі газавымі ацяпляльнымі прыборамі і прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу, аплата будзе спаганяцца штомесяц у залежнасці ад гадавых аб'ёмаў яго спажывання, якія вылічваюцца нарастаючым вынікам штогод з 1 студзеня.

Так, пры спажыванні да 3 тыс. куб. м прадугледжана аплата па цэнах, устаноўленых заканадаўствам.

Пры спажыванні ад 3 тыс. да 5,5 тыс. кубаметраў уключна — па ўстаноўленых цэнах з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 1,3, але не большая за цану, якая забяспечвае поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

У выпадку, калі гадавое спажыванне газу перавышае 5,5 тыс. куб. м, грамадзяне павінны будуць рабіць аплату па цэнах, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

ПОДРОБНОСТИ

# В чьих руках теперь «Амкодор»?

*В результате продажи дополнительной эмиссии акций ОАО "Амкодор" — управляющая компания холдинга" 53,64% от уставного фонда выкупила компания ООО "Интерсервис".*

Таким образом, один из самых успешных белорусских холдингов переходит под контроль бизнесмена Николая Воробья.

Новополоцкий бизнесмен Николай Воробей стремительно продвигается вверх в списке самых богатых людей Беларуси. В бизнесе он с 1994 года, когда появилось ООО "Интерсервис" — оптовый поставщик нефти на переработку и продавец нефтепродуктов на белорусском и международном рынках. Кроме этого у Николая Воробья в аренде ландшафтный заказник "Красный бор" (Верхнедвинский и Россонский районы), где организуют спецтуры на кабана, лося, глухаря, тетерева. А также несколько рыболовных озер в том же регионе. Воробью также принадлежат несколько магазинов и ресторанов в городе химиков. В частности, несколько лет назад он выкупил старейший новополоцкий ресторан "Беларусь".

В прошлом году ООО "Интерсервис" приобрело у московской компании "Нафта-строй" битумный завод "Вёска-ЭмульБит". Кроме того, "Интерсервис" на основании указа президента получил в собственность имущественный комплекс Новополоцкого завода белково-витаминных концентратов. По условиям соглашения с властями, компания должна инвестировать до 2021 года в строительство на его базе современного нефтеперерабатывающего производства. Но, помимо этого, напомним, "Интерсервис" стал одной из компаний, замешанных в скандале с поставками в Европу нефтепродуктов по так называемой "растворительно-разбавительной схеме". После скандала с растворителями "Интерсервис" отказался от строительства мини-НПЗ на базе завода БВК и заявил о намерении "развивать на этих площадях другое производство".

Так кто же такой Николай Воробей?

"Николай Николаевич — широкой души человек. Когда может, то всегда оказывает поддержку городу. Социально ответственный бизнесмен", — сообщил о нем чиновник Новополоцкого горисполкома. Бизнесмен действительно поддерживает мероприятия не только в родном Новополоцке. Например, на 625-летие Верхнедвинска он спонсировал праздничный фейерверк. Местные СМИ написали, что это был "самый эффектный момент праздника". Национальный исторический музей Беларуси присвоил Николаю Воробью звание "Друг музея". Таким образом в музее высказывают признательность тем людям, которые оказали поддержку.

Тем не менее Воробью, похоже, не надо ни признательности, ни публичности. В "Интерсервисе" никаких новостей, связанных с компанией, не комментируют, ссылаясь на то, что у них непубличное частное предприятие. Даже фото Николая Воробья пока не появилось ни в одном СМИ. Вот уж действительно: деньги любят тишину...

**Елена НОВИКОВА.**

ДАСЛОЎНА

## *Аляксандр ЛУКАШЭНКА*

*— Годзе ўжо плакацца, што ў нас дактары — жабракі, бедныя, такія- сякія. Пара ўрачам даваць вынік. Усе атрымліваюць аднолькавую адукацыю, усе ў аднолькавых умовах, але Смеяновічы (вядомы ў краіне найрахірург, прафесар, акадэмік НАН Беларусі. — **Рэд.**) не ўсюды з'яўляюцца. Так, павысім заробак, аптымізуемся, але і спытаем. Таму як з настаўнікаў, так і з ўрачоў будзе жалезнае патрабаванне.*

***(Падчас наведвання РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі 28 студзеня 2013 г.)***

НАДВОР'Е

## *Снег з дажджом*

*Заўтра ў Беларусі чакаецца змена надвор'я. Маразы рэзка аслабеюць, у чацвер установіцца адліга, і ўмовы надвор'я будуць складаныя.*

У сераду на большай частцы тэрыторыі Беларусі прагназуецца снег, мокры снег, па паўднёвым захадзе з дажджом. Днём у асобных раёнах галалёд, туман, на дарогах галалёдзіца. Па паўночным захадзе месцамі прагназуецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ноччу ад 0˚С па паўднёвым захадзе да мінус 11˚С па ўсходзе краіны. Днём мінус 2˚С — плюс 3˚С, па ўсходзе да мінус 5˚С.

У чацвер чакаецца праходжанне актыўнага глыбокага цыклону і прагназуюцца складаныя ўмовы надвор'я. На большай частцы тэрыторыі ападкі, мокры снег, дождж. У асобных раёнах моцныя ападкі, месцамі моцны галалёд, туман. На дарогах галалёдзіца. Ноччу па паўднёвым захадзе, а днём на большай частцы тэрыторыі ўзмацненне ветру з парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ноччу мінус 5˚С — плюс 2˚С, днём мінус 1˚С — плюс 5˚С.

У пятніцу надвор'е стабілізуецца, а ў нядзелю паступова пачне падмарожваць. У пятніцу і суботу на большай частцы тэрыторыі чакаецца снег, мокры снег, на дарогах месцамі галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу 0˚С — мінус 7˚С, днём мінус 3˚С — плюс 3˚С.

У нядзелю ўначы месцамі, а днём на большай частцы тэрыторыі пройдзе кароткачасовы снег, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу мінус 2˚С — мінус 8˚С, пры праясненнях да мінус 11˚С, днём ад 0˚С да мінус 5˚С.

СЕНСАЦИЯ

# Код Казимира

## *Беларусь имеет все права претендовать на культурное наследие Казимира Малевича*

Буквально месяц назад в издательстве "Харвест" вышла книга **"Казимир Малевич. Восхождение на крест судьбы".** Ее автор — ученый и дипломат **Игорь Александрович МАЛЕВИЧ**. Он взялся за перо, чтобы напомнить: Казимир Малевич, отец философии супрематизма и "Черного квадрата", всемирно известный художник и философ, — из старинного литвинского рода Малевичей, сподвижников братьев Калиновских, наш белорусский художник. Он — наша национальная гордость. Беларусь имеет права на это гениальное имя и творческое наследие мастера.

Книга писалась не один год. Еще дольше накапливались факты органической связи Казимира Малевича с Беларусью. Осмысливалась роль этого большого философа и художника в судьбе нескольких поколений семьи Малевичей.

И вот книга издана, правда, почти весь тираж уже увезен в Москву и Европу, что, впрочем, и неплохо.

Но пришла пора возвратить имя Казимира Малевича Беларуси! Известно, что 2015 год будет объявлен ООН Годом столетия загадочного малевичского "Черного квадрата". И это после того, как 2004 год уже объявлялся ООН годом художника Малевича. Национальная интеллигенция должна наконец с полным сознанием своей правоты потребовать вернуть культурное наследие Малевича Беларуси. Через несколько недель в Национальном художественном музее состоится официальная презентация книги "Казимир Малевич. Восхождение на крест судьбы". Приглашены историки, краеведы, ученые.



### Малевич — опорная точка национальной идентичности

**— Игорь Александрович, я думаю, для начала надо сказать своеобразное вступительное слово о наследии Малевича: почему сегодня это имя, как никогда, важно для нас, белорусов?**

— Наступило время, когда и общество, и власть ищут в истории опорные точки нашей национальной идентичности. И у нас действительно есть такие личности, которые только одной своей гигантской силой предвидения произвели революцию в мировом сознании. Например, художники "витебской школы" — Шагал, Малевич, Сутин. Они — опорные столпы нашей национальной идентичности. Эти люди создали ту интеллектуальную ось, относительно которой в XX веке начал поворачиваться мир.

(Окончание на 6-й стр.)

### ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

**Малевич Игорь Александрович** — белорусский радиофизик, доктор физико-математических наук, профессор, Лауреат Государственных премий, дипломат, писатель.

Разработчик советской системы лазерной локации Луны и спутников, лидарных систем космического и подводного наблюдения объектов, медицинской технологии лазерной стабилизации иммунной системы чернобыльцев.

Автор книг "Внимание, Китай", "Когда в Европе еще вчера, в Корее уже завтра", "Азиатский треугольник драконов", "Изменяя себя, Китай изменяет весь мир. Переговорные традиции и современный бизнес-этикет", "Китайско-русско-белорусский разговорник". Автор лингвистического справочника "Китайско-белорусский бизнес-диалог".

Работал в ведущих университетах США, ФРГ, Финляндии и других стран. На протяжении ряда лет работал в Китае и Южной Корее.

ПАМЯЦЬ

# Не знаць, не помніць?

*У Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакоста жалобныя мерапрыемствы адбыліся ва ўсіх краінах Еўропы.*

У Германіі канцлер Ангела Меркель сказала, што немцы нясуць вечную адказнасць за злачынствы нацызму. Мясцовыя парламенты і грамадскія арганізацыі правялі жалобныя мерапрыемствы. Папа Рымскі Бенедзікт XVI падчас набажэнства назваў Халакост "жахлівай трагедыяй", падчас якой у большай ступені пацярпеў яўрэйскі народ.

У штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку адбылася спецыяльная цырымонія, прысвечаная памяці ахвяр нацысцкага тэрору.

Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун у сваім відэазвароце да ўдзельнікаў цырымоніі заклікаў іх "аддаць належнае тым, хто рызыкаваў сваім жыццём і сваімі сем'ямі дзеля выратавання яўрэяў і іншых ахвяраў нацыстаў ад практычна немінучай гібелі".

Як у Беларусі адзначылі гэты дзень?

З такім пытаннем "Народная Воля" звярнулася да старшыні аб'яднання яўрэйскіх суполак Леаніда Левіна. *"На жаль, тэма Халакоста не знайшла ўсебаковага абмеркавання на старонках дзяржаўных СМІ. Мяне, шчыра кажучы, непакоіць тое, што гэтая тэма на дзяржаўным узроўні па сутнасці замоўчваецца. Нібыта нас гэта ніякім чынам не тычыцца. Загінула столькі народу! Справа ж не ў яўрэйскай суполцы, а ў краіне. У нас у Яўрэйскім доме адбудзецца сход, прыйдуць прадстаўнікі амбасады Ізраіля. Але мне падаецца, што тэма Халакоста павінна гучаць на дзяржаўным узроўні",* — лічыць Леанід Левін.

Сёлета тэма Дня памяці ахвяр Халакоста — "Выратаванне падчас Халакоста: мужнасць неабыякавасці". Ён прысвечаны людзям, якія ратавалі яўрэяў і іншых ахвяр нацыстаў падчас Другой сусветнай вайны.

27 студзеня 1945 года савецкія войскі вызвалілі канцэнтрацыйны лагер у Асвенцыме. У гэты дзень і сталі адзначаць Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакоста.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
29 СТУДЗЕНЯ 2013 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



# Балансируя над пропастью

Новейшая история экономики Беларуси показала ее отличительные особенности, которые не всегда укладываются в каноны макроэкономики. Рост ВВП свыше 5% в год ведет к галопирующей инфляции и потере финансового равновесия. Следовательно, к обвальному снижению жизненного уровня белорусского населения. Доказательство этому — валютно-финансовый кризис 2011 года. Рост ВВП до 5% в год сопровождается снижением инфляции, сохранением относительной финансовой стабильности и достигнутого уровня благосостояния народа. Свидетельство этому — экономика минувшего 2012 года, которая дала рост ВВП на 1,5%. Третьего нам сегодня не дано. Из двух зол, как говорится, надо выбирать меньшее. Какое — догадайтесь сами.

Поэтому всех напрягло решение правительства в 2013 году дать жару ВВП на 8,5%. Напрягает и начало года. За половину января инфляция составила уже 1,9% (в декабре потребительские цены увеличились на 1,4%). В этой инфляции много прямого участия государства. Так, повышение акцизов привело к росту цен на табачные изделия на 17,2%, водку — на 3,8%. Включение НДС в услуги связи обеспечило повышение их цен на 20%, цены на услуги железнодорожного транспорта регионального сообщения возросли на 16,7% и т.д. Не сильно в росте отстали рыночные цены на свежие овощи: огурцы — 12,1%, помидоры — 12,7%, свекла — 9,6%, капуста — 9,4%.

По-прежнему усиливает дисбалансы в белорусской экономике рост зарплаты, который опережает темпы роста производительности труда примерно в 5 раз. За год зарплата выросла в 1,6 раза. Средняя зарплата в декабре составила 4 млн 741 тыс. рублей, или 553,5 доллара в эквиваленте. В декабре 2011 года она составляла 2 млн 878 тыс. рублей, или 339,7 в долларовом эквиваленте. Увеличение зарплаты сопровождалось усиленным ростом рублевой денежной массы. На начало года она достигла, включая средства в рублевых ценных бумагах, 68 трлн 137,1 млрд и увеличилась за год на 57,2%, или, грубо говоря, в 1,5 раза. Масса наличных денег возросла до 11 трлн рублей, или на 68,5%. Однако благодаря высоким процентам рублевых банковских депозитов удавалось связывать лишние деньги, направляя их на кредитование экономики, и уложиться с инфляцией в прогноз. По прогнозу на этот год инфляция должна составить 12%, значит, ставка рефинансирования вместе с банковскими процентами должна снижаться, а зарплату нам обещают к концу года не менее 600 долларов. Удастся ли денежным властям связать, как прежде, лишние рубли в банках под более низкие проценты депозитов, или они выплеснутся на потребительский и валютные рынки — вопрос вопросов. Если выплеснутся, тогда не удержим в запланированных рамках ни курс рубля, ни инфляцию. Тем более что торговый баланс страны вновь обретает привычное отрицательное сальдо.

Чтобы обеспечить запланированный рост ВВП, не прибегая особо к помощи необеспеченной кредитной эмиссии и печатного станка, власти объявили важнейшим приоритетом года модернизацию предприятий. Если иметь в виду ее технологическую сторону, то на эти цели необходим не один десяток миллиардов долларов. Модернизация только минпромовских предприятий оценивается в 3,1 млрд долларов. В бюджете необходимых сумм на модернизацию не заложено, их неоткуда взять. Профинансировать модернизацию за счет прямых иностранных инвестиций после деприватизации кондитерских предприятий и известного “принудительного” декрета №9 по концерну “Беллесбумпром” также не получится. Поэтому и с модернизацией также больше вопросов, чем ответов. Пока она проводится административными методами и на бумаге.

Согласно Постановлению Совмина №1262 от 30.12.2012 г. правительство утвердило два показателя эффективности предприятий, считай модернизации, — выручку и добавленную стоимость на одного работника. Первый к 2015 году у того же ОАО “Камволь” должен волшебно увеличиться по сравнению с 2013 годом в 4 раза, второй — в 7,5 раза. Скромнее приросты у нашумевших ОАО “Ковры Бреста”: соответственно в 1,3 раза и в 1,9 раза. Солидные приросты этих показателей ожидаются и у наших флагманов. К примеру, выручка на одного работающего у ОАО “Белорусский металлургический завод” вырастет за три года в 1,2 раза, а добавленная стоимость — в 1,5 раза. У ОАО “ГродноАзот” оба показателя увеличатся в 1,8 раза. Поднять эффективность производства за три года в полтора-два раза — это по Маяковскому: “Люблю я наших планов громадье...” Остается проблемным вопрос: кто купит эти приросты белорусской выручки? По мнению экспертов, предпосылок для увеличения внешнего спроса на белорусскую продукцию никаких нет. В том числе и на российском рынке, особенно после вступления России во Всемирную торговую организацию. Потенциал же внутреннего спроса всегда был ограничен. Увеличить, например, экспорт по Минпрому за год на 17% и достичь положительного сальдо в 3 млрд 750 млн долларов, как записано, эксперты считают нереальным. Тем более что Россия держит Беларусь на коротком поводке с поставками нефти, отказываясь подписывать годовой баланс.

Необходимость одновременного решения упомянутых и других проблем граничит с экономическими ребусами. Бурный рост ВВП приведет к потере финансовой стабильности и кризису. Надо чем-то жертвовать. Нацбанк в прошлом году увеличивал кредитную эмиссию, по сути, балансируя над пропастью, испытывая экономику на монетарную прочность: денежный пузырь может легко лопнуть, и рубль может сорваться в неуправляемую девальвацию. В экономике остается балласт убыточных предприятий и растущих на складах залежей нереализованной продукции. В результате на 1.12.2012 г. просроченная дебиторская задолженность предприятий составляла 16,8 трлн рублей и с начала года увеличилась на 44,3%.

Безысходность ситуации может подтолкнуть власти к масштабной приватизации государственной собственности, чего так добивается российское руководство. Причем уступать ее придется по сходным ценам. Но это может нарушить основы белорусской авторитарной экономики, где государство вмешивается везде и во все. Поэтому белорусское руководство будет, как и ранее, стремиться сохранить основы существующей экономической модели, корректируя ее в самых необходимых, неотложных случаях. У него за спиной в качестве “скорой помощи” всегда стоит российская финансовая поддержка. А значит, экономические реформы, о которых все уши прожужжало правительство, можно отодвигать до бесконечности.

ЧУЛІ?

## Не больш як на 12%

*Нацбанк правёў разлікі, згодна з якімі кошты ў 2013 годзе павінны вырасці не больш як на 12 працэнтаў.*

У мінулым годзе рост склаў амаль 22%. Нацбанк мае намер у 2013 годзе падтрымліваць цэнавую стабільнасць і зрабіць работу беларускіх банкаў больш эфектыўнай.

Навіна, безумоўна, добрая. Праўда, як верыць такім разлікам, калі ўжо ў студзені паслугі сувязі ў Беларусі падаражэлі на 20%, праезд чыгуначным транспартам рэгіянальных зносін эканом-класам — на 16,7%, а пахавальныя паслугі з 24 студзеня выраслі калі і не на 80%, як паведамлялася раней, то на 30% дакладна?

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

## Яшчэ больш завінаваціліся банкам

*Праблемныя крэдыты беларускіх банкаў павялічыліся за 2012 год на 54,3% і дасягнулі 1 трлн 97,2 млрд рублёў.*

Праблемныя крэдыты — гэта крэдыты, зваротнасць якіх сумніўная. Дзіўна, але беларускія банкі ўсё роўна іх выдаюць.

Згодна з статыстычнай справаздачай Нацбанка, сума праблемных крэдытаў у беларускіх рублях на 1 студзеня 2013 года склала 418,9 млрд, павялічыўшыся за год на 47,9%. Асноўная доля прыросту праблемных крэдытаў у нацвалюце прыпадае на дзяржпрадпрыемствы, якія павялічылі іх за год у 5,2 раза. А вось прыватнікі, наадварот, скарацілі на 15,2% праблемны доўг у нацвалюце перад банкамі.

Што тычыцца насельніцтва, то праблемная запазычанасць фізічных асоб у беларускіх рублях за 2012 год вырасла на 16,5%.

Што тычыцца праблемных валютных крэдытаў, то на 1 студзеня 2013 года яна склала эквівалент 678,3 млрд рублёў, павялічыўшыся за год на 58,5%. І тут у “лідарах” таксама дзяржпрадпрыемствы, праблемная запазычанасць якіх перад банкамі за год вырасла ў 3,5 раза.

ЗДАРЭННЕ

## Пазадарожнік пада льдом на Нёмане

Каля вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна госці турыстычна-аздараўленчага комплексу “Высокі бераг” з Расіі вырашылі пакатацца па беразе Нёмана на квадрацыклах.

Да кампаніі вырашыў далучыцца кіроўца Toyota Land Cruiser. Ён праехаў па лёдзе каля 15 м, пасля чаго пазадарожнік пайшоў пад лёд, паведамляе сайт МНС.

Гаспадар аўто паспеў выбрацца на бераг, але чамусьці ў МЧС патэлефанаваў толькі на наступны дзень. Затоплены аўтамабіль выцягвалі з-пад лёду выратавальнікі.

ПРАТЭСТ

# Віктар Талмачоў падымае мінчан на абарону аўтавакзала «Маскоўскі»

*Як паведамлялася, расійская кампанія “Газпром” плануе пабудаваць у Мінску офіс-хмарачос на тэрыторыі аўтавакзала “Маскоўскі”, прызнанага ў 1999-м “лепшай пабудовай года”. Віктар Пятровіч Талмачоў, наш адданы чытач, стараста мікрараёна “Усход” (ці, як ён сам сябе жартоўна называе, “міні-мэр”), кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт, распачаў збор подпісаў супраць зносу арыгінальнага будынка, падобнага да НЛА, супраць знішчэння функцыянальнага і зручнага транспартнага аб’екта.*



Віктар Талмачоў прыгадвае, што некалі старшыня сталічнага гарвыканкама назваў яго “самым вялікім мінчанінам”. Праўда, пасля гэтага стаў усяляк яго пазбягаць. І невыпадкова, бо Віктар Пятровіч гарадскім уладам, кажучы простай мовай, выеў усе пячонкі.

Сакрат называў сябе дакучлівым аваднём, які джаліць атлусцелага і гультаяватага каня. З ім старажытнагрэчаскі філосаф ён параўноўваў Афіны. Віктар Талмачоў хоць і не філосаф, але джаліць не горш, чым той Сакрат. *“Яны за добрыя грошы робяць кепскія справы, а мы задарма іх выпраўляем,* — гаворыць ён пра свае няпростыя адносіны з гарадскімі ўладамі. — *Мне б навукай займацца, дык не даюць жа! То тут, то там усё намагаюцца што-небудзь у гараджан адабраць. А я не магу на гэта проста глядзець”.*

Віктар Пятровіч быў застрэльшчыкам грамадскай кампаніі па абароне Севастопальскага парку, калі праз яго збіраліся пракласці трэцяе транспартнае кальцо. Клаўся пад бульдозер, каб абараніць зялёную зону побач з сваім домам. Але не абмяжоўвался толькі бліжэйшым наваколлем. Таксама ён удзельнічаў у пратэстах супраць ушчыльнення забудовы разам з жыхарамі мікрараёна “Уручча”. Выходзіў і на рэспубліканскі ўзровень, даказваючы небяспеку размяшчэння АЭС у Астравецкім раёне. *“Калі яна, крый божа, аднойчы жахне, усё панясе на Мінск”,* — тлумачыць Віктар Пятровіч, спасылаючыся на свае разлікі ружы вятроў.

Увязацца ў барацьбу супраць планаў пабудовы на месцы аўтавакзала “Маскоўскі” офіса адной з найбуйнейшых нафтагазавых кампаній свету яго прымусілі ў тым ліку меркаванні экалогіі. “Газпром” збіраецца пабудаваць тут чатырохпялёсткавую транспартную развязку на скрыжаванні пр.Незалежнасці і вул.Філімонава. Па словах Віктара Пятровіча, гэта непазбежна павялічыць аўтамабільную плынь, што не толькі прывядзе да павелічэння загазаванасці раёна, але і рэанімуе планы па будаўніцтве дарогі праз Севастопальскі парк.

Трэба сказаць, што ў сваёй грамадскай дзейнасці Віктар Талмачоў кіруецца прынцыпам “крытыкуеш — прапануй”. Таму ён даводзіць гарадскім уладам, што “Газпром” мог бы не чапаць вакзал, а пабудавацца побач, на месцы будынка Гідраметцэнтра, прызначанага да зносу. Або паставіць свой офіс на 9-м кіламетры, дзе шмат вольнага месца. Па чутках, кажа Віктар Пятровіч, месца для будаўніцтва выбіралася з меркаванняў зручнасці дарогі з аэрапорта да офіса. Дык калі пабудаваць офіс на 9-м кіламетры, дабірацца ж будзе яшчэ зручней.

Подпісы Віктар Пятровіч называе карыснай “страшылкай” для ўлад, але ўсё-такі галоўным ён лічыць “блізкі бой”. Гэта значыць хаджэнне па інстанцыях і непасрэдныя сустрэчы з адказнымі чыноўнікамі. *“Тады ў іх лепей адбіваецца інфармацыя”,* — дадае Віктар Пятровіч. Ён ужо сустрэўся з намеснікам старшыні Мінгарвыканкама Андрэем Уладзіміравічам Дамарацкім. Аддаючы яму сваю заяву, Віктар Пятровіч патлумачыў сцісла яе змест: “Пакіньце, калі ласка, у спакоі аўтавакзал “Маскоўскі”. На што намеснік (магчыма, неабачліва) адказаў: “Добра, пакінем у спакоі”. Вядома ж, Віктар Пятровіч злавіў чыноўніка на слове. І ў наступных папяровых зваротах спасылаецца на яго.

У бліжэйшых планах Віктара Талмачова стварэнне грамадскай ініцыятыўнай групы па абароне аўтавакзала “Маскоўскі”, куды ён хоча запрасіць Мікалая Сцяпанавіча Навумава, чыёй візітнай карткай як архітэктара з’яўляецца будынак вакзала. Калі Беларускі саюз архітэктараў віншаваў Мікалая Сцяпанавіча з 70-годдзем, менавіта пра гэты яго праект згадвалі, характарызуючы яго як *“высокамастацкі твор архітэктуры, які адлюстроўвае прафесіяналізм, тонкі густ, пачуццё сучаснасці аўтара”.* Мікалай Навумаў чакае: ці ўздымуць калегі свой голас зараз, каб абараніць твор, пра які яны казалі такія прыгожыя словы? Сам ён разгублены і не ведае, што рабіць. *“Куды мне звяртацца, у ААН? Ці, можа, спаліць сябе, каб прыцягнуць увагу?* — голас архітэктара дрыжыць. — *Вунь, судзяць першага намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Васільева. Мне здаецца, не яго аднаго трэба судзіць. Нейкія дзіўныя і недарэчныя рашэнні гарадское начальства апошнім часам прымае...”*



Аўтавакзал “Маскоўскі” пачалі будаваць у 1989 годзе, але скончылі будаўніцтва толькі праз дзесяцігоддзе. Пасля ён сабраў цэлы шэраг узнагарод. Гран-пры на Рэспубліканскім конкурсе архітэктуры ў 1999-м за лепшую пабудову года, дыплом на Сусветным фестывалі архітэктуры ў Балгарыі, срэбны медаль на Міжнародным фестывалі дойлідства 2001 года ў Маскве, дыплом Мінбудархітэктуры за лепшую працу ў вобласці горадабудаўніцтва і архітэктуры (2002 год). У 2003-м атрымаў Дзяржпрэмію Рэспублікі Беларусь за арыгінальную архітэктуру грамадскіх і прамысловых збудаванняў. Беларускія газеты на розныя лады расхвальвалі яго, называючы “супервакзалам”, “вакзалам мары” і т.п.

А ўсяго толькі праз 13 гадоў, вясной 2012-га, старшыня Мінгарвыканкама заяўляе, што гэты вакзал *“не з’яўляецца помнікам архітэктуры”* і *“казаць пра тое, што яго знос стане для горада вялікай стратай, нельга”.* Пры гэтым на сайце Мінсктранса ён і цяпер яшчэ называецца *“адным з найпрыгажэйшых збудаванняў горада”* і *“адным з найбуйнейшых вакзалаў у Еўропе”.*

Згодна з данымі Мінсктранса, ёмістасць будынка аўтавакзала — 600 пасажыраў, сутачная прапускная здольнасць — 15.200 пасажыраў. Штодня ад аўтавакзала “Маскоўскі” адпраўляецца 345 аўтобусаў у прыгарадным накірунку, 144 — у міжгародным, паслугамі аўтавакзала карыстаюцца 3200 пасажыраў у дзень (для параўнання: паслугамі аўтавакзала “Цэнтральны” — 2000 чалавек). Гэтыя тры з паловай сотні прыгарадных аўтобусаў спадар Ладуцька збіраецца раскідаць па дыспетчарскіх станцыях на вуліцах Карбышава і Русіянава (міжгароднія аўтобусы пойдуць з “Усходняга” і “Цэнтральнага” аўтавакзалаў), і без таго загружаныя гарадскім транспартам. Не кажучы ўжо пра тое, як нязручна сюды і адсюль будзе дабірацца пасажырам.

Падчас нашай гутаркі ў кватэры Віктара Талмачова раздаецца тэлефонны званок. Тэлефануе Ягор, малады чалавек, праграміст, які знайшоў кантакты Віктара Пятровіча праз інтэрнэт. Ён хацеў бы дапамагчы са зборам подпісаў. Прашу слухаўку, каб пацікавіцца, што яго падштурхнула на гэты крок. Не подзвіг, але досыць нестандартныя паводзіны па цяперашніх часах, калі моладзь абірае канфармізм і бяздзейнасць. *“Ведаеце, мне вельмі не спадабалася, што варта было толькі багатаму дядзьку з Расіі шчоўкнуць пальчыкамі, як яны ўсталі на заднія лапкі і хвосцікам завілялі,* — кажа Ягор. — *Я не хачу, каб беларусы ўспрымаліся настолькі лёгкадаступнымі. У “Газпрома” не атрымалася ўперці гэтую шклобетонную вежу пецярбуржцам, дык яны на мінчанах вырашылі адыгр926ацца?”*

**Дзмітрый ГАЛКО.**

**P.S.** Звязацца з Віктарам Пятровічам Талмачовым можна па тэлефоне 263-20-28 (хатн.), 8-029-533-2028 (МТС).

УВАГА!

## 3500 мінчан пацярпелі ад галалёду

Медыкі агучылі сумную статыстыку з пачатку зімы.

Урачы падкрэслілі: пры падзенні людзі атрымліваюць не толькі пераломы, але і вывіхі, чэрапна-мазгавыя траўмы.

Яшчэ больш за 100 чалавек пацярпелі ў Мінску ад маразоў, толькі 30% з іх — так званыя “асацыяльныя элементы”. Астатнія перамерзлі выключна праз асабістую нядбайнасць.

Медыкі прызываюць быць напагатове, бо зіма яшчэ не скончылася.

СІТУАЦЫЯ

# Як беларусаў вызвалялі з рабства

*Людміла Львоўна АРЭШЧАНКА, маці двух вызваленых у Дагестане жыхароў Віцебска, распавяла “Народнай Волі”, што загнала яе сыноў у рабства.*

Напрыканцы мінулага тыдня стала вядома, што падчас сумеснага рэйду актывістаў расійскага маладзёжнага руху “Альтэрнатыва” і прадстаўнікоў МУС Рэспублікі Дагестан на цагляным заводзе, размешчаным ля вёскі Краснаармейск паблізу Махачкалы, былі вызвалены дзевяць чалавек, у тым ліку чацвёра беларусаў.



Вызваленыя з рабства.

Па словах кіраўніка “Альтэрнатывы” Алега Мельнікава, у рабстве беларусы прабылі сем-дзевяць месяцаў. Двое з іх браты. Раней яны неаднаразова прыязджалі з Беларусі на заробкі ў Маскву. Прыехаўшы ў расійскую сталіцу апошні раз, яны даведаліся, што на іх працоўныя месцы ўзялі іншых людзей, паведамляў БелаПАН. Застаўшыся без працы і грошай, браты правялі тры дні на Беларускім вакзале. Там да іх падышлі незнаёмыя, якія накармілі іх і прапанавалі працу ў Дагестане. Вярнуцца дадому яны не змаглі, бо ў іх не было грошай і магчымасці патэлефанаваць сваякам. За тэрыторыю завода яны не выходзілі, бо работадаўцы запужалі іх тым, што нібыта за тэрыторыяй завода вядуцца баявыя дзеянні і яны могуць трапіць у палон да баевікоў або пад кулі.

— Пад выглядам пакупнікоў мы аб’язджалі ў Дагестане заводы, гутарылі з рабочымі, — распавёў “Народнай Волі” **Алег МЕЛЬНІКАЎ**. — На адным з прадпрыемстваў і даведаліся аб той сітуацыі, у якую трапілі людзі. Была праведзена спецаперацыя, іх вызвалілі.

**— З рабочымі ўсё ж такі расплаціліся?**

— Нешта далі, але, натуральна, не за ўвесь тэрмін працы. У некаторых нават не хапала на білеты, таму збіралі на іх. Дарэчы, вызвалялі людзей з дапамогай супрацоўнікаў МУС Дагестана. Пасля іх накіравалі на нашу перавалачную базу ў Махачкале, у суботу вечарам беларусы выехалі ў Маскву на аўтобусе. А адтуль ужо паедуць дадому.

Як стала вядома, два браты, якія паехалі ў Расію за доўгім рублём, з Віцебска. Іх маці, **Людміла Львоўна АРЭШЧАНКА**, распавяла нашай газеце: за той час, што сыноў не было дома, яна ледзь не перанесла другі інсульт.

— Маім сынам Валодзю і Андрэю — адпаведна 23 і 37 гадоў, — кажа яна. — У ліпені паехалі ў Маскву на заробкі. Патэлефанавалі адтуль, сказалі, што застаюцца там ці то да лістапада, ці то да снежня. А пасля зніклі. Я звярталася ў перадачу “Жди меня”, мне абяцалі, што пошукі ідуць. І вось некалькі дзён таму Андрэй патэлефанаваў. Кажа: “Мама, мы ў Дагестане, хутка будзем дома”. У мяне слёзы і пакаціліся. У мяне ж, акрамя іх, нікога няма... Муж памёр, сама я хворая. У 2010 годзе перанесла інсульт. Мова вярнулася, але дрэнна з памяццю, амаль не хаджу. Сыны заўсёды дапамагалі, а дзякуючы старэйшаму я наогул паднялася на ногі. Але ж пенсія ў мяне маленькая (каля 1 мільёна 300 тысяч), на яе ўтрох не пражывёш. Да таго ж шмат на лекі ішло.

**— А што, сыны не працавалі?**

— Разумееце, яны блізарукія, таму камісія пры ўладкаванні на працу іх “бракавала”. Хоць у абодвух ёсць спецыяльнасці. Адзін — сантэхнік, другі — аўтаслесар. Вось і шукалі па аб’яве фірмы, дзе не трэба праходзіць медыцынскую камісію. Так і патрапілі ў Маскву. Яны наогул абяцалі, што паедуць толькі на два тыдні папрацаваць вахтавым метадам. Пасля, як ужо казала, патэлефанаваў Андрэй і заявіў, што застаюцца да канца года. А напрыканцы жніўня — на пачатку восені званок ад невядомай жанчыны: “Тэлефаную па просьбе вашых сыноў. Іх вязуць на Кізляр, пасля — у Дагестан. Вадзіцеля завуць Самір”. Жанчына апісала Валодзю і Андрэя, паведаміла, што яны схуднелыя, дрыжаць, але яна паспела іх пакарміць. Дадала: “Шукайце іх”. Я звярнулася ў міліцыю, распавяла ўсё... Але навін ніякіх не было да таго моманту, пакуль сыноў не знайшоў нейкі расійскі пошукавы атрад.

**— Ці ёсць у вашых сыноў сем’і?**

— Валодзя — халасцяк, а Андрэй развёўся. Ёсць дачка ад першага шлюбу. Няўдала ажаніўся, яшчэ 20 гадоў не было... У яго пазыка па ўплаце аліментаў, інспектар шукае. Але ж я казала: ён не мог уладкавацца на працу, не было чым заплаціць. Вось і паехаў з братам на заробкі. Дарэчы, не ў першы раз.

**— Больш, напэўна, ужо не паедуць?**

— Ведаеце, я іх проста не пушчу. І нікому не раіла б, бо пагоня за доўгім рублём можа перарасці ў самую сапраўдную трагедыю, калі чалавек трапляе ў рабства і працуе за кавалак хлеба і шклянку вады. А мне, маці, як балюча было! І так здароўя няма, а за той час, пакуль не было сыноў, ледзь другі інсульт не перанесла. Дзякуй Богу, што вяртаюцца дадому жывыя!.. Усё астатняе для мяне зараз другаснае...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРЫРОДА

## Зуброў на ўлік

*Як паведаміў супрацоўнік аддзела паляўнічай гаспадаркі нацыянальнага парку “Белавежская пушча” **Георгій Шахалевіч,** спецыялісты ўстанаўліваюць колькасць і полаўзроставую структуру папуляцыі зуброў.*

Улічваюцца жывёлы на тэрыторыі 200 квадратных кіламетраў — у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Па выніках будзе вызначаны “ліміт выключэння” зуброў у Белавежскай пушчы.

Як адзначыў Шахалевіч, цяпер у нацпарку шмат старых і хворых жывёл, адстрэл якіх ажыццяўляюць як паляўнічыя, так і супрацоўнікі нацпарку. У 2012 годзе ў Белавежскай пушчы налічвалася 428 зуброў.

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 СТУДЗЕНЯ 2013 г.

ДАЛЁКАЕ-БЛІЗКАЕ

# Настаўніцкі страйк: як было і што з таго...

*Мінула 20 гадоў з тае пары, як педагогі 160-й сярэдняй школы г.Мінска правялі (упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі) папераджальны страйк — перасталі даваць урокі сваім вучням... На крайнюю меру іх змусілі пайсці жабрацкія заробкі. Якім чынам адрэагавала на "настаўніцкі бунт" вярхоўная ўлада і функцыянеры ад адукацыі? І, нарэшце, ці маюць сёння права на падобныя пратэсты тыя, хто пакліканы "сеяць разумнае, добрае, вечнае"? Наколькі ўвогуле так званыя непедагагічныя дзеянні настаўнікаў фарміруюць (ці, наадварот, прытупляюць) грамадзянскую пазіцыю пакалення, якому выпала нарадзіцца і жыць у эпоху несвабоды і ўціску?*

*Пра гэта размова з былым настаўнікам 160-й школы, былым старшынёй страйкама* ***Віктарам Маклаковым.***




**— Падзеі дваццацігадовай даўніны — ужо гісторыя… І тым не менш, Віктар Мікалаевіч, што ўрэзалася ў памяць, што трывожыць да гэтай пары?**

— У свядомасці — няспраўджанасць надзей, якімі на пачатку 1990-х жылі настаўнікі і ўсё астатняе грамадства. А трывожыць, бадай, адно: парасткі грамадзянскасці, пра якую Яўген Еўтушэнка пісаў: "Ты, гражданственность, — флаг, а не флюгер", так і не зарунелі на беларускім полі. Тыя парасткі, роўна як і сам беларускі сцяг, літаральна затапталі нагамі... Думаю зараз: чаму так здарылася, хто вінаваты, каму верыць, на каго спадзявацца? У рэшце рэшт, нехта ж павінен узрушыць замшэлую і цынічную сістэму адзінаўладдзя, якая не мае нічога агульнага ні з дэмакратыяй, ні са свабодай. На мой погляд, ніякая палітычная партыя ў цяперашніх умовах — калі грамадзянская супольнасць у эмбрыянальным стане — не можа перайначыць заскарузласць улады, тым больш прыйсці да яе законным шляхам. Ну які законны шлях, калі народ "зацугляны" ў кантрактную аброць, калі ў кожнай шарашцы — ідэолаг-наглядчык, калі суды, СМІ і ўся астатняя раць служаць не столькі закону, колькі інтарэсам таго, у каго паўнамоцтваў больш, чым у цара?.. Трэба быць поўным ідыётам ці звышнаіўнай істотай, каб разлічваць на нешта іншае: мы ж нават не арабы, мы проста — рабы...

**— Значыцца, ніякай надзеі на лепшае? Ці вы ўсё-такі разлічваеце на прасвятленне народа, на ягоную "векавую мудрасць", якая — па словах паэта — больш нагадвае "векавы смутак"?..**

— У тым і справа, што смутак засціць вочы, а надзея сталася прывідам... У арабаў ёсць вера ў законы Шарыяту, ці там нейкая ісламская дактрына, за якую варта і шахідам зрабіцца, а ў нас — нічога такога. Нават незалежнасць сама сабою звалілася пад самыя ногі — бяры не хачу... То якое змаганне?! Усё неяк само сабою і вытанчыцца, а пакуль — у кожнага свая хатка, і тая хатка на водшыбе... Такая жлобская пазіцыя — залатая жыла для прайдзісветаў. Яны, канечне, б'юць у хамут... перад выбарамі, а далей у хамут б'е ўжо народ. І бывае — дзесяцігоддзямі... Ну, а калі сур'ёзна, то без грамадзянскай супольнасці, без салідарнасці на падставе нацыянальнай ідэі, якая б аб'яднала бальшыню народа, нічога путнага не атрымаецца. Будзем і надалей трываць "мудрага з мудрых", бурчэць падчас ілжэвыбараў і цягнуць бурлаковую лямку на вачах цывілізаванага свету. Праблема не адно ў тым, што апазіцыйныя партыі ніяк не дамовяцца, не скаардынуюць дзеянні, а ў тым, што ўсе яны — даруйце за банальнасць — страшна далёкія ад мас. Тут ужо мала "гутарку весці з народам" (да балбатні выпрацаваўся імунітэт), тут падавай прыклад уласнага змагання. І не за асабістае шчасцейка, а за пакрыўджаных ды абылганых, забітых і забытых, выкінутых з працы, беспадстаўна засуджаных. Жывыя справы, а не пустапарожнія словы фарміруюць у душы чалавека крышталь грамадзянскасці, штурхаюць да дзеяння і ўрэшце яднаюць увесь народ. Лёгка быць флюгерам, цяжка — сцяганосцам, яшчэ пакутней — самім сцягам. На мой погляд, Зянон Пазьняк якраз і быў жывым сцягам для ўсіх нас напрыканцы 1980-х — на пачатку 1990-х. Некаторыя цяпер з лёгкасцю абураюцца: маўляў, трэ было ісці да канца, маўляў:

*Боль гражданства — не в собственной боли.*
*Тот, кто истинный гражданин,*
*Защищает собою все поле,*
*Даже если он в поле один...*

Па нацыянальнасці я рускі, але Беларусь для мяне — сапраўдная Радзіма. І бывае крыўдна і балюча, калі чуеш пра лідара БНФ нешта незаслужана-прылепленае, беспадстаўна-абвінаваўчае. Мне б першаму крыўдаваць на Зянона Станіслававіча — не ўспрымаў ён былых савецкіх афіцэраў, да якіх і я належаў, але ж не крыўдую. Чаму? Ды проста падзяляю ягоную веру, імкненне вывесці люд беларускі на прасцяг свабоды і дэмакратыі. Упэўнены, такіх людзей, як я, у краіне досыць, але да многіх трэба яшчэ дастукацца, дайсці. Якраз гэта і паяднае ўсіх нас. Менавіта высокая грамадзянскасць у выглядзе адкрытых дзеянняў, а не дуля ў кішэні — першы крок да перамен у грамадстве. Памятаеце:

*Все мы порознь, как в чаще тропинки,*
*И дорога, когда мы одно.*
*Все мы порознь, как в поле травинки,*
*Ну а вместе — Бородино.*

**— Віктар Мікалаевіч, папераджальны страйк быў адным з першых крокаў у адстойванні грамадзянскіх правоў настаўнікаў. Але чым усё скончылася?..**

— На такі адчайны крок нас змусіла пайсці сітуацыя з заработнай платай. Час быў складаны для ўсіх, а для настаўнікаў — проста гаротны. Уявіце, рэальны заробак педагога складаў толькі 64 працэнты ад сярэдняга заробку служачых у прамысловасці. Між тым 34-ы артыкул "Закона аб адукацыі" гарантаваў узровень зарплаты не ніжэй за 100 працэнтаў ад сярэдняга заробку служачых у прамысловасці. Мы, педагогі, паверылі ў зварот Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, які, зняверыўшыся ў непаслядоўных дзеяннях урада, аб'віў (пры ўмове невыканання Пастановы Вярхоўнага Савета РБ ад 23 красавіка 1992 года, пункт 7, артыкул 34) перадстрайкавае становішча. Тую пастанову ніхто, як высветлілася, і не думаў выконваць. І тады працоўны калектыў 160-й школы ў адпаведнасці з рашэннем Маскоўскай раённай прафсаюзнай канферэнцыі вырашыў баставаць. Рашэнне прымалася, дарэчы, тайным галасаваннем. Мы пайшлі на гэта, добра ўсведамляючы, што нашы дзеянні супярэчаць этыцы педагога. Але ў выніку пакутлівых разваг усё ж прыйшлі да высновы, што іншага выйсця няма. Афіцыйныя ўлады пайшлі на звычайны падман, не выканаўшы імі ж прыняты закон, праігнараваўшы праблемы аднаго з самых сацыяльна неабароненых слаёў грамадства. Хоць інфармацыя і была даведзена да адпаведных уладных структур, ніхто не палічыў нават патрэбным прыехаць у школу, абмеркаваць з намі набалелае. Палічылі, відаць, аб'яву аб страйку звычайным блефам.

**— І што было далей?**

— У першы дзень страйку тэрмінова з'явілася "пажарная каманда" на чале з тагачасным намеснікам старшыні гарвыканкама Сасноўскім. Гэты спадар у грубай і цынічнай форме спрабаваў уздзейнічаць на страйкам і калектыў школы, запалохваючы рэпрэсіўнымі мерамі з прыцягненнем праваахоўных органаў. Яго не засмуціла ні прысутнасць тэлевізійнай здымачнай групы, ні прыезд дэпутата Вярхоўнага Савета ад нашай акругі В.Голубева. Мушу заўважыць, што страйкам, разумеючы вялікую адказнасць перад дзецьмі і іх бацькамі, а таксама тое, што мэта страйку — звярнуць увагу ўлады на сваё бядотнае становішча — дасягнута, меў намер прыпыніць страйк у першы ж дзень. Але правакацыйныя дзеянні Сасноўскага падштурхнулі калектыў на працяг забастоўкі. Падхліснула і абяцанне старшыні рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі Т.Чобатавай "разабрацца" з намі. Вось толькі калектыў школы не даў запалохаць сябе, пацвердзіў свае ранейшыя патрабаванні. Цяпер — з вышыні часу — прыходзіць усведамленне: на свет Божы прадзіраліся першыя парасткі грамадзянскасці, якія неўзабаве — з прыходам да ўлады Лукашэнкі — цалкам ачахлі, папросту былі выкарчаваны альбо знявечаны рознымі указамі, рэпрэсіямі, кантрактамі-душылкамі. Успомнім хоць бы страйк метрапалітэнаўцаў ці тыя ж разгоны мірных дэманстрантаў...

**— Як бы там ні было, але ў прафсаюза далукашэнкаўскай эпохі была ўсё ж воля і жаданне дзейнічаць?**

— Так і не так. Проста варта памятаць, які быў час — пераходны. Ды і дзеянні прафсаюзных функцыянераў былі палавінчатымі, з аглядкай на кебічаўскі ўрад. Тады ўпершыню па-сапраўднаму заявілі пра сябе і ўзначалілі барацьбу працоўных менавіта свабодныя прафсаюзы. Памятаю зварот да грамадзян Беларусі Мінскага гарадскога страйкама: *"Мы звяртаемся са словамі надзеі да творчай інтэлігенцыі. Вы і Вашы ўзнёслыя словы аб Радзіме і Волі павінны быць з намі на плошчы. Ва ўсіх краінах і ва ўсе часы інтэлігенцыя была залатым фондам нацыі — усюды, але ж не ў нас. Можа, Вы пагадзіліся з гэтым станам?*

*Мы звяртаемся да настаўнікаў:- калі вы будзеце патрабаваць ад урада выканання закона аб адукацыі, то гэта ні да чога не прывядзе, пры гэтым урадзе гэты закон усё ж не будзе выконвацца. І вы раз за разам, не зразумеўшы галоўную прычыну, будзеце выходзіць на плошчу і выпрошваць кавалак з разрабаванага стала.*

*Правядзенне рэформ і паляпшэнне жыцця людзей, а менавіта гэтага мы дамагаемся, немагчымы без адстаўкі ўрада Кебіча, стварэння пераходнага ўрада і правядзення датэрміновых дэмакратычных выбараў у новы Вярхоўны Савет".*

Ведалі б наперад, што краіна неўзабаве перакінецца з агню ды ў полымя, што праз пару-тройку год пачнецца ўдушэнне нават таго, што толькі пачало нараджацца... Сёння са здзіўленнем назіраем, як працоўныя еўрапейскіх краін, змагаючыся за свае правы, выходзяць на дэманстрацыі. І не на ўскрайках сталіц тыя шэсці, а ў самым цэнтры, на галоўных плошчах. Бастуюць урачы, настаўнікі, транспартнікі, нават паліцыя... Зразумела, прафсаюзы на Захадзе — у адрозненне ад беларускіх — не кішэнныя, не дэкаратыўныя, а сапраўдныя выразнікі людскіх інтарэсаў.

**— Віктар Мікалаевіч, як паводзіла сябе падчас папераджальнага страйку начальства, у прыватнасці кіраўніцтва школы, чыноўнікі гарвыканкама, дэпутаты Вярхоўнага Савета?**

— Пра Сасноўскага я ўжо казаў, астатнія — з ліку гарадскога чынавенства, галіновага прафсаюза — канечне, былі супраць акцыі. Тое ж можна сказаць і пра вярхоўную ўладу. Напрыклад, старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч тлумачыў сваю пазіцыю тым, што павелічэнне зарплаты настаўнікам прывядзе, маўляў, да павелічэння дэфіцыту бюджэту, а гэта кепска адаб'ецца на матэрыяльным становішчы пенсіянераў і моладзі. Але ж размова ішла якраз пра выкананне пастановы Вярхоўнага Савета, а не пра нейкія падачкі... Больш лаяльным у адносінах да нас быў спадар Казулін — ён прадстаўляў Міністэрства адукацыі. Адчувалася, што гэта чалавек новай фармацыі, які гатовы выслухаць, зразумець, разабрацца... Так і было, калі ён вёў перамовы з настаўніцкім страйкамам.

Асобна хачу сказаць пра дырэктара школы М.Кухарчыка і завуча Г.Пірскую... Яны з самага пачатку былі супраць страйку, рабілі крокі, каб яго не дапусціць. Але... вялі сябе вельмі тактоўна, паважаючы нашы правы і ўзгадняючы свае дзеянні з членамі забастовачнага камітэта. Як ні ціснулі на іх гарадскія чыноўнікі, абодва захавалі такт і культуру ў адносінах да калег, чым і заслужылі нашу павагу.

**— А як паставіліся да настаўніцкага страйку школьнікі, іх бацькі?..**

— З разуменнем. Ніхто не выказаў аніякай незадаволенасці, наадварот, старшакласнікі былі нават салідарныя... А калектыў Рэчыцкай школы-інтэрната перадаў нам пэўную суму грошай. Увогуле, настаўніцтва той пары было настроена рашуча. Напрыклад, Рэспубліканская канферэнцыя прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі пастанавіла (у выпадку, калі не будзе рэалізаваны ў поўным аб'ёме 34-ы артыкул Закона аб адукацыі) пачаць агульнарэспубліканскі галіновы страйк. Прычым з 369 дэлегатаў, якія бралі ўдзел у тайным галасаванні па гэтым пытанні, супраць выказаліся толькі 22 чалавекі...

**— Віктар Мікалаевіч, на ваш погляд, ці задаволена настаўніцтва сваімі заробкамі ў нашы дні? На прэс-канферэнцыі Лукашэнкі журналісты звярнулі на гэта ўвагу, але голасу саміх педагогаў не чуваць. А заробкі настаўнікаў складаюць у сярэднім 3,5 мільёна, у той час як у некаторых галінах народнай гаспадаркі — 4,5, а то і 5 мільёнаў…**

— Мне цяжка казаць нешта за ўсіх, бо даўно на пенсіі, адышоў ад актыўнай дзейнасці... Але дакладна ведаю, што сярэдняя зарплата настаўнікаў за мінулыя два гады знізілася на 95 долараў. Пра гэта яшчэ мінулай восенню паведаміў старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Аляксандр Бойка. Калі яму верыць, то сярэдні заробак пад канец 2010 года ў доларавым эквіваленце складаў 427 долараў, а восенню 2012 года — толькі 332. Канечне, афіцыйная прапаганда, як заведзена, трубіць пра бясхмарнасць у гэтым пытанні: і што дзяржава пастаянна клапоціцца, і што заробкі ў настаўнікаў па 5—6 мільёнаў, і што зусім неістотны дэфіцыт кадраў. Ну і гэтак далей. Але хто сёння паверыць у гэтыя казкі?.. Верыць варта толькі ў сябе ды ў людскую салідарнасць, якая не вынікае з нічога, а толькі гартуецца ў барацьбе.

**Георгій ЧЫГІР.**

АВАРЫЯ

## *П'яны кіроўца загінуў у ДТЗ*

*Пяць разоў інспектары ДАІ затрымлівалі яго за кіраванне ў нецвярозым стане. У шосты раз ён стаў вінаватым у аварыі, у якой загінуў сам і пазбавіў жыцця пасажыра.*

Пакуль спецыялісты вырашаюць, да якой ступені ўзмацніць пакаранне для кіроўцаў, што садзяцца за руль п'янымі, аварый з іх удзелам на беларускіх дарогах менш не робіцца. У нядзелю ў Мінску 32-гадовы кіроўца "Аўдзі А6" не справіўся з кіраваннем, выехаў за межы праезнай часткі і здзейсніў наезд на асвятляльную мачту. У выніку кіроўца і 55-гадовая мінчанка, якая сядзела на пасажырскім месцы, ад цялесных пашкоджанняў памерлі на месцы здарэння. 30-гадовы сын загінуўшай з траўмамі шпіталізаваны ў Бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі.

Пасля страшнага здарэння высветлілася, што кіроўца знаходзіўся ў стане ап'янення. Больш за тое, з 2002-га па 2005 год ён пяць разоў прыцягваўся да адказнасці за кіраванне ў стане ап'янення, апошні раз у 2005 годзе быў пазбаўлены вадзіцельскага пасведчання на пяць гадоў. У верасні 2012 года аднавіў яго.

ДОСЛОВНО

## *Владимир ЦАЛКО, министр природных ресурсов*



*— У нас, слава Богу, воды сегодня достаточно. Более того, когда я был у президента, докладывал о внесении статьи в закон о сохранении болот, то есть тех мест, откуда берут начало реки. У нас в Беларуси сегодня 896 тыс. га болот. Этого достаточно. В Европе редко где такое есть. И, конечно, их мы сегодня не используем. У нас, например, годовой запас — 2,9 млрд литров, то есть в год мы можем спокойно вырабатывать достаточное количество воды. Сегодня из этого мы только 20 процентов потребляем.*

**— А почему не продаем? Когда поступят первые доллары в нашу казну от продажи пресной воды? Это к кому вопрос: к вам или к министру экономики, например?**

*— Доллары уже поступают. Но это 10 процентов от того, что мы могли бы. 10 процентов воды мы сегодня продаем на экспорт. Это достаточно сложно. На это нужны очень большие деньги, рекламная деятельность. Нужно вложиться, чтобы наша вода пошла. У нас сегодня есть подземные воды — газированные и простые, которые можно без очистки прямо в бутылку — и потреблять. У нас и такие источники есть.*

*(Из интервью каналу СТВ.)*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## *Кожны пяты беларус мае патрэбу ў дапамозе*

У Беларусі, па даных на 1 студзеня 2013 года, каля 1 мільёна 660 тысяч чалавек былі на ўліку ў тэрытарыяльных цэнтрах сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Сярод іх 128,2 тыс. адзінокіх пажылых людзей і 567,6 тыс. такіх, што адзінока пражываюць, 63,4 тыс. шматдзетных і 126,2 тыс. няпоўных сем'яў, амаль 23 тыс. сем'яў з дзецьмі-інвалідамі.

Як паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, колькасць зваротаў у цэнтры за рознай дапамогай узрастае, і сацпаслугі робяцца ўсё больш запатрабаванымі, асабліва ў

СРАВНИМ

# Лекарства от давления в Украине дешевле, чем в Беларуси



Многие белорусы заметили: почти каждый поход в аптеку заканчивается одним и тем же вопросом: "А что, лекарства снова подорожали?" Официально нам говорят, что цены на лекарственные препараты находятся под контролем Минздрава. Уже несколько лет подряд главное медицинское ведомство страны подписывает соглашение по сдерживанию розничных цен на лекарственные средства с производителями и реализаторами. Причем Минздрав следит за тем, как условия этого соглашения выполняются: постоянно проводит мониторинг цен в аптеках разных форм собственности. Казалось бы, для роста цен нет и других предпосылок — валютных: больше года белорусский рубль стабилен по отношению к доллару, значит, закупки лекарств у компаний-производителей проводятся по одним и тем же ценам весь этот период. Но почему-то в аптеках цены на импортные препараты постоянно растут. И, как выясняется, стоят дороже, чем в соседних странах.

*— Сын привез из Киева "Нейромидин",* — позвонила недавно в редакцию читательница из Минска Зоя Чурило. — *Этот латвийский препарат мне нужно принимать регулярно, я страдаю рассеянным склерозом. В Украине упаковка из 50 таблеток по 20 мг стоит 97 гривен, или в пересчете на наши рубли 105 тысяч, а у нас в аптеках точно такую же упаковку предлагают по 145—170 тысяч. Представляете, какая разница! Живем-то мы не лучше украинцев.*

Этот звонок подвиг нас сравнить цены на импортные лекарства в аптеках Киева и Минска. Мы выбрали 15 препаратов разных групп, наиболее популярных у населения. Выяснилось, что буквально по всем позициям цены в Беларуси выше, а на некоторые лекарства, например на антигипертензивный препарат "Энам" или мультивитаминный комплекс "Центрум", даже в 2 и более раз.

## *Цены на лекарственные препараты (в белорусских рублях)*

| Название препарата | Цена (минимальная и максимальная) в аптеках Минска | Цена (минимальная и максимальная) в аптеках Киева |
|---|---|---|
| **Линекс** (Словения), капс., №16 | **36.000—46.700** | **26.700—48.500** |
| **Гастал** (Хорватия), таб., №60 | **31.500—41.000** | **41.400—49.200** |
| **Фервекс без сахара** (Австралия), пор., №8 | **58.000—68.000** | **42.850—51.500** |
| **Флавамед** (Германия), сироп, 15мг/5мл, 100мл, №1 | **34.490—38.650** | **27.000—38.000** |
| **Терафлекс** (Германия), капс., №60 | **140.000—184.860** | **167.000—171.000** |
| **Энам** (Индия), таб., 10 мг, №20 | **15.100—21.550** | **8700—10.200** |
| **Нолипрел А** (Франция), таб., 2,5мг/0.625мг, №30 | **99.000—129.150** | **74.900—92.000** |
| **Жаннин** (Германия), таб., №21 **112.300—140.500** | **107.200—114.400** | |
| **Но-шпа** (Франция), таб., 40 мг, №20 | **16.500—22.000** | **14.000—21.000** |
| **Хофитол** (Франция), таб., №60 | **49.500—67.140** | **41.400—58.400** |
| **Кардиомагнил** (Норвегия), таб., 75 мг/15 мг, №100 | **37.050—54.100** | **39.000—53.500** |
| **Глицин** (Россия), таб., 100 мг, №50 | **15.850—20.400** | **11.900—16.800** |
| **Супрастин** (Венгрия), таб., 25 мг, №20 | **36.200—41.420** | **32.000—38.200** |
| **Зовиракс** (Великобритания), крем, 5%, 2г | **27.740—33.150** | **26.000—37.000** |
| **Центрум** (Канада), поливитамин+мультиминерал, таб., №30 | **168.000—219.650** | **59.000—73.500** |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ,**
**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент "Народной Воли" в Украине.**

НУ І НУ!

## *Пасол Расіі не ведае, у якой краіне працуе?*




*Вось такая шыльда вісіць на будынку рэзідэнцыі расійскага амбасадара Аляксандра Сурыкава ў Мінску на вуліцы Камуністычнай. Цікава, што на будынку Пасольства Расійскай Федэрацыі, якое знаходзіцца на вуліцы Нававіленскай, назва нашай краіны ўказана правільна — "Республика Беларусь".*

НЕ ЖАРТ

## *Выратаванне іграманаў — справа рук саміх іграманаў*

*Арыгінальны спосаб барацьбы з іграманамі прыдумалі ў Беларусі. Нават Савет міністраў прыняў удзел у распрацоўцы новаўвядзення.*

Цяпер у казіно і іншыя ігральныя ўстановы не будуць пускаць тых, хто вырашыў самастойна абмежаваць сябе ў наведванні такіх месцаў. Вызначаць іх будуць не па колеры вачэй ці нейкіх іншых прыкметах. Ім прапанавана **самастойна** падаць пісьмовую заяву любому арганізатару азартных гульняў у любую ігральную ўстанову краіны з просьбай абмежаваць яго ў наведванні ігральных устаноў тэрмінам ад 6 месяцаў да 3 год. Пададзеная заява вяртанню не падлягае і будзе расцэньвацца як падача заявы ўсім арганізатарам азартных гульняў на тэрыторыі Беларусі.

Міністэрства па падатках і зборах Беларусі размясціла на афіцыйным сайце прыкладную форму дадзенай заявы, а арганізатарам азартных гульняў рэкамендавала загадзя падрыхтаваць яе бланкі.

Цікава, ці многа знойдзецца такіх адказных іграманаў, якія не толькі прызнаюцца сабе ў тым, што падпалі пад залежнасць ад рулеткі, але і добраахвотна ад гэтага адмовяцца?

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Атруцілі ці няправільна кармілі?*

*Пракуратура Віцебскай вобласці падоўжыла тэрміны праверкі па справе аб масавай гібелі еўрапейскіх аленяў да 23 лютага.*

Праверка працягнута для ўстанаўлення канкрэтнай сумы нанесенай шкоды. Праваахоўнікі не ўпэўнены, што алені былі атручаны. Такую версію раней агучвалі прадстаўнікі Мінпрыроды. Праваахоўнікі ж самай верагоднай прычынай гібелі жывёл пакуль называюць няправільнае кармленне, перапад тэмператур і магчымае віруснае захворванне. Папярэдняя сума шкоды ацэньваецца ў 76 мільёнаў 400 тысяч рублёў, адзначае БЕЛТА.

Нагадаем, што ў паляўнічай гаспадарцы ў Докшыцкім раёне загінулі больш за 40 еўрапейскіх аленяў. Здарэнне адбылося ў канцы 2012 года.

ЗІМОВЫЯ ЗАБАВЫ

# Гонкі на «залатых» сабаках

*Сотні ўдзельнікаў і тысячы балельшчыкаў прыехалі ў выходныя ў Раўбічы, каб паглядзець на Трэція зімовыя спаборніцтвы па ездавым спорце "Завіруха-2013".*



## Хто тут хаскі?

Памятаеце песеньку з цудоўнага дзіцячага мультфільма "Под грустное рычание, под бодрое мычание, под дружеское ржание..."? Усе два дні "Завірухі" ў Раўбічах праходзілі пад "сяброўскія" брэханне і выццё — лайкі, маламуты і хаскі спявалі свае песні захопленым аматарам зімовага адпачынку. Колькі дакладна сабак прывезлі ўдзельнікі спаборніцтваў на старт, сказаць цяжка, бо былі тут і сабакі-спартсмены, і псы-гледачы, і нават шчанят заводчыкі бралі з сабою. У першы дзень спаборніцтваў малыя сталі сапраўдным хітом. Будучыя падаўжальнікі парод хаскі і маламут самі былі не супраць сустрэч з прыхільнікамі — ездавыя сабакі даволі прыязна ставяцца да людзей, хоць гэта і не хатняя парода.

*"Хаскі і маламуты лепш адчуваюць сябе на волі, таму нават узімку яны жывуць у вальерах,* — распавялі "Народнай Волі" заводчыкі з Расіі. — *Калі трымаць такога сабаку ў маленькай і цёплай кватэры, не даваць яму прасторы, то ваш выхаванец можа захварэць".*

Яшчэ адна прычына, чаму такіх сабак не кожны возьмецца ўтрымліваць дома, — цана. Парадзісты шчанюк з добрай радаслоўнай і шанцам на поспех у спаборніцтвах будзе каштаваць каля ***трох тысяч долараў***. І кошты толькі растуць! Лепшымі лічацца сабакі, якіх выводзяць у Нарвегіі. Іх гадуюць спецыяльна для ўдзелу ў арктычных экспедыцыях.

Спартсмены, што ўдзельнічаюць у беларускіх спаборніцтвах, выдаткоўваюць нямалыя сумы і на рыштунак. Пра тое, што "рухаючую сілу" трэба карміць і рэгулярна аглядаць у ветэрынара, і казаць не трэба. Дарэчы, да спаборніцтваў у Раўбічах не дапусцілі некалькіх сабак — не прайшлі медкамісію.

## Не шкадуючы ног

Сёлета ўдзел у "Завірусе" бралі 130 спартсменаў з 6 краін свету. Сярод іх — пяць дзяцей да сямі гадоў. Малыя таксама авалодалі майстэрствам язды на сабачых запрэжках і ўдзельнічалі ў "Завірусе" нароўні з дарослымі. У асноўным спартсмены прыязджаюць з Расіі, хоць былі і еўрапейскія, і беларускія ўдзельнікі. "Завіруха" — сапраўднае спаборніцтва і проста так удзельнічаць у іх не станеш. Нават бывалыя спартсмены не спраўляліся з крутымі віражамі трасы ў Раўбічах. Як сумны вынік — некалькі паламаных канечнасцяў.

Дарэчы, "Завіруха" - спаборніцтва, даступнае для ўсіх. Напрыклад, адным з удзельнікаў заездаў быў мужчына без адной нагі. Перасоўвацца па трасе яму дапамагалі нарты незвычайнай канструкцыі — вузкія і сідзячыя.

Гледачы спагадліва віталі ўсіх спартсменаў незалежна ад іх нацыянальнасці ці поспеху. Настрой усім узнімаў і вядучы **Андрэй Перапечка**.

На "Завіруху" прыязджалі цэлымі семьямі і нават бралі з сабою ўласных сабак. Арганізатары паклапаціліся і аб гарачай ежы для гасцей, і аб месцах, дзе могуць пагрэцца дарослыя і дзеці.

*"Мы ўжо другі раз прыязджаем на "Завіруху" з жонкай,* — распавёў мінчанін Сяргей. — *Раней спаборніцтвы праходзілі ў Валожынскім раёне, і дабрацца да месца без машыны было складана. А зараз з Мінска можна прыехаць на маршрутцы ці аўтобусе. Шкада, што ходзяць яны зусім нячаста".*

Нават міні-кірмаш арганізатарам удалося арганізаваць. Праўда, сувеніры былі зусім не таннымі. Напрыклад, ключніца ў выглядзе сімпатычнай лайкі цягнула на 300 тысяч рублёў! Затое перакусіць можна было не дорага — за паўнавартасны сняданак і каву прасілі не больш за 30 тысяч.

Як і ў мінулым годзе, надвор'е падчас спаборніцтваў было халодным і сонечным. Так што настрой узнімаўся так якасна, што да вясны зараду павінна хапіць дакладна.

**Марыя БУДНІК.**

*Раўбічы—Мінск.*





ФУТБОЛ

## *Колькасць квіткоў абмежавана*

У продаж паступілі квіткі на матч 1/16 фіналу Лігі Еўропы паміж футбалістамі барысаўскага БАТЭ і турэцкага "Фенербахчэ", які адбудзецца ў Гродне 14 лютага.

Кошт квіткоў складае ад 40 да 100 тысяч беларускіх рублёў у залежнасці ад сектара стадыёна. Трэба адзначыць, што трыбуны гродзенскага "Нёмана" ўмяшчаюць толькі каля 8 тысяч гледачоў.

Квіткі на матч паступілі ў свабодны продаж у Барысаве, Мінску, а таксама ў касах гродзенскага ЦСК "Нёман". Але не ўсе квіткі паступяць у свабодны продаж. Частка месцаў цэнтральнага сектара ў абавязковым парадку прадастаўляецца камандзе гасцей і партнёрам УЕФА, згодна з рэгламентам дакументаў Лігі Еўропы. Пэўная колькасць месцаў зарэзервавана для патрэб ігракоў і трэнерскага штаба каманды і VIP-гасцей.

ДАРЭЧЫ

## *Пры пустых трыбунах*

Матч у адказ БАТЭ правядзе ў Турцыі 21 лютага на стадыёне "Шукру Сараджаглу" ў Стамбуле. Ён, хутчэй за ўсё, адбудзецца пры пустых трыбунах. Справа ў тым, што кантрольна-дысцыплінарная інстанцыя УЕФА такім чынам пакарала саперніка барысаўскага БАТЭ з-за паводзін балельшчыкаў у час паядынку групавой стадыі Лігі Еўропы з менхенгладбахскай "Барусіяй" 6 снежня 2012 года. Прыхільнікі "Фенербахчэ" кідалі на поле петарды і іншыя прадметы. Акрамя таго, клуб абвінавачваецца ў арганізацыі матча не на належным узроўні. "Фенербахчэ" таксама аштрафаваны на 40 тыс. еўра.

Праўда, БАТЭ збіраецца адправіць ва УЕФА афіцыйны запыт наконт магчымасці прысутнасці балельшчыкаў барысаўчан у гасцявым сектары на гульні 21 лютага.

МЕДДАВЕДКА

## *Паліце? Выкрасліце 10 гадоў*

*Беларусь — сярод краін, дзе паленне з'яўляецца другой пасля алкаголю прычынай смяротнасці.*

Нядаўнія даследаванні пацвердзілі, што сёння паленне для жанчын нясе значна большую рызыку, чым гэта было ў апошнія дзесяцігоддзі. Напрыклад, сучасныя амерыканкі маюць больш шанцаў памерці ад палення, чым 50 гадоў таму. На першым месцы сярод сумных вынікаў заганнай звычкі — рак лёгкіх, хранічны бранхіт, сардэчна-сасудзістыя захворванні.

Часопіс New England Journal of Medicine спасылаецца на аналіз гісторый хваробы больш як 2,2 мільёна жанчын у ЗША з 2000-га па 2010 год.

Жанчыны, якія паляць, паміралі ў 27 разоў часцей ад раку лёгкіх, чым тыя, хто ніколі не паліў, — гэта, між іншым, узровень, якога "дасягнулі" мужчыны-курцы ў 1980 годзе. У 1960 годзе такая рызыка для жанчын была толькі ў 2,7 раза большая.

Прафесар медыцынскай статыстыкі ў Оксфардзе вызначае краіны, дзе паленне з'яўляецца другой (пасля алкаголю) прычынай смяротнасці — гэта Расія, Украіна і Беларусь, а таксама некаторыя краіны Усходняй Еўропы.

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

# Пра білборды і беларускі хакей

Нядаўна "Народная Воля" паведаміла пра тое, што плакаты з тэкстам "МА-МА=МО-ВА", нядаўна размешчаныя на білбордах у беларускай сталіцы з ініцыятывы Міністэрства культуры, раптоўным чынам зніклі. Як у Асацыяцыі рэкламных арганізацый, так і ў Мінскім гарвыканкаме ні незалежным журналістам, ні актывістам ГА "Таварыства беларускай мовы" ніхто не здолеў патлумачыць, чаму гэта адбылося. У нашай з верху да нізу засакрэчанай дзяржаве знайсці якую-небудзь асобу, адказную за нешта канкрэтнае, бывае ох як складана!

Гісторыю з мінскімі білбордамі я хацеў бы тут, аднак, павярнуць крыху ў іншы бок. Днямі давялося ехаць у аўтобусе па праспекце Пераможцаў і ўбачыць вялікі плакат з тэкстам "Болей за Беларусь, болей за "Дынамо": №71 Александр Павлович" і велізарнай каляровай выявай гэтага хакеіста з клюшкай у руках.

Адразу скажу, што я з дзіцячых гадоў не абыякавы да цудоўнай гульні, якая сфарміравалася ў Канадзе, з назвай "хакей". Яшчэ школьнікам я ведаў на памяць прозвішчы ўсіх больш-менш вядомых хакеістаў Савецкага Саюза, Канады, ЗША, Чэхаславакіі, Швецыі, страшэнна перажываў, калі нашы прайгравалі чэхам, сам гуляў на турнірах "Залатой шайбы" ў родным Полацку.

Цяпер у Мінску існуе прафесійная хакейная каманда, якая адносна паспяхова гуляе ў досыць прэстыжнай Кантынентальнай хакейнай лізе (КХЛ). Рэкламаваць выдатных спартсменаў, у тым ліку на білбордах, выглядае працягам вельмі даўняй традыцыі, калі старажытныя грэкі ўшаноўвалі пераможцаў Алімпійскіх гульняў як сапраўдных герояў. І сёння ні ў кога не выклічуць пытання білборды з партрэтамі алімпійскіх чэмпіёнаў Лондана Сяргея Мартынава або Вікторыі Азаранка, якая да таго ж стала першай ракеткай свету ў прафесійным жаночым тэнісе. Але давайце вернемся да дасягненняў хакеіста Аляксандра Паўловіча. Яны, мякка кажучы, сціплыя: за ўвесь мінулы сезон гэты форвард па сістэме "гол плюс пас" набраў... ажно пяць ачкоў, а ў сёлетнім сезоне ён зусім не трапіў у асноўны склад мінскага "Дынама" і гуляе ў чэмпіянаце Беларусі, дзе таксама, дарэчы, знаходзіцца далёка не на першых ролях.

Нехта скажа: "Тым не менш беларускія хакеісты заслугоўваюць увагі, бо каманда "Дынама" не так кепска гуляе, мае шанцы патрапіць у фінальную частку той самай КХЛ; хай сабе не Паўловіч, дык іншыя заслугоўваюць месцаў на дарагіх білбордах..." Ну што ж, зазірнём у няўмольную статыстыку. Сённяшнія лідары "Дынама", якія робяць ільвіную долю прафесійнай працы ў камандзе, гэта амерыканец Тым Стэплтан (на момант напісання гэтага матэрыялу мае 34 ачкі па названай сістэме), фін Тэму Лайнэ (30 ачкоў), канадзец з беларускім пашпартам і незаконным двайным грамадзянствам Джэф Плэт (25 ачкоў), чэх Збынек Іргл (24 ачкі). Пры гэтым самыя высокія паказчыкі беларускіх нападаючых — у Андрэя Стася (14 пунктаў), Дзмітрыя Мялешкі (12), астатнія маюць па дзесяць і менш пунктаў кожны. Любы аматар хакея скажа вам, што бясспрэчнымі лідарамі абароны мінскага "Дынама" на сёння з'яўляюцца канадзец Коры Мэрфі, фіны Ерэ Каралахці (капітан каманды), Яне Ніскала, чэх Лукаш Крайчэк, а вароты каманды ў гэтым сезоне абараняюць нарвежац Ларс Хаўген і фін Пека Рынэ.

Уяўляю сабе апанента, які скажа: затое мы маем двух ігракоў-беларусаў, якія паспяхова гуляюць у паўночнаамерыканскай НХЛ. Сапраўды, народжаны ў Германіі Міхаіл Грабоўскі і экс-навапалачанін Сяргей Касціцын маюць кантракты ў гэтай самай моцнай лізе свету. Але ці належаць яны да найлепшых хакеістаў гэтай лігі? Пра гэта найлепш сведчаць ведамасці заробкаў, паводле якіх ні Грабоўскі, ні Касціцын-малодшы не ўваходзяць нават у тыя дзве сотні хакеістаў НХЛ, што маюць найвышэйшы ўзровень заработнай платы (паводле вызначанай верхняй мяжы).

Да чаго гэта я? Толькі да таго, што сярод нашых жывых сучаснікаў ёсць вельмі шмат асоб, жыццёвыя дасягненні якіх нашмат вышэйшыя за цяперашнія дасягненні Аляксандра Паўловіча і нават Міхаіла Грабоўскага з Сяргеем Касціцыным. Разумею, што сённяшняя ўлада ніколі не змесціць на білбордах у Беларусі выявы народных паэтаў Беларусі Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, творцаў, перакладзеных на многія мовы свету, Уладзіміра Арлова, Святланы Алексіевіч, Уладзіміра Някляева, выдатных мастакоў Аляксея Марачкіна, Алеся Пушкіна, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага: усе яны ў вачах уладатрымальнікаў належаць да "пятай калоны" (у перакладзе з эзопавай мовы — да ворагаў), сёй-той з іх нават спазнаў "ласку" ўлады ў выглядзе адсідак у беларускіх турмах. Але чаму б не знайсці месца на плакатах для акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі 102-гадовага Барыса Кіта, для акадэміка Акадэмій навук Беларусі і Расіі, члена Амерыканскага геафізічнага саюза Радзіма Гарэцкага, для сусветна вядомых мастакоў Барыса Заборава, Уладзіміра Савіча, Паўла Татарнікава, для нашых выдатных оперных артыстаў з іх унікальнымі галасамі — напрыклад, для саліста Венскай філармоніі Рыгора Палішчука, спевакоў беларускага Вялікага тэатра Ніны Шарубінай, Уладзіміра Пятрова, Віктара Скарабагатава, для зоркі нашага драматычнага тэатра Віктара Манаева, для выбітнага балетмайстра Валянціна Елізар'ева?..

Знойдзецца хтосьці і запярэчыць: маўляў, хакейны клуб "Дынама-Мінск" сам мае грошы і замаўляе вулічныя плакаты на свой густ. У сувязі з гэтым хачу заўважыць, што асноўнымі фундатарамі клуба з'яўляецца фактычна дзяржаўны "Беларуськалій", істотную долю падтрымкі дае Мінскі гарвыканкам, які існуе за грошы ўсіх падаткаплацельшчыкаў — і аматараў хакея, і тых, каго гэтая гульня абсалютна не цікавіць. А самае галоўнае, што сродкі, якіх не хапае літаральна ўсім у сучаснай Беларусі, выдаткоўваюцца на куплю дарагіх замежных "зорак мясцовага маштабу", а міжнародны рэйтынг зборнай Беларусі па хакеі тым часам няўхільна падае...

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

КРИМИНАЛ

## *Озверели?*

*В Гомельской области возбуждены два уголовных дела за истязания. Один сельчанин истязал свою сожительницу утюгом, другой — посадил на цепь.*

Как сообщили БелаПАН в пресс-службе УВД Гомельского облисполкома, неработающий 32-летний житель поселка Широкое Буда-Кошелевского района во время внезапно возникшей ссоры причинял нагретым утюгом телесные повреждения своей 38-летней сожительнице.

В деревне Физинки Наровлянского района 65-летний пенсионер надел на шею своей 55-летней сожительницы металлическую цепь и закрыл на навесной замок, причинив боль и психические страдания.

Обвиняемым грозит арест на срок до трех месяцев, ограничение свободы на срок до трех лет или лишение свободы на тот же срок.

Гораздо более сильное наказание грозит человеку, преступившему не только Уголовный кодекс, но и все пределы человеческой морали. Фельдшер жодинской скорой помощи, лидер объединения чернобыльцев-ликвидаторов **Александр Волчанин** сообщил, что в субботу ночью в Жодино совершено жуткое убийство ребенка. Ему перерезали горло.

Волчанина направили констатировать смерть двухлетнего ребенка. Приехав на место происшествия, даже опытный фельдшер испытал шок.

*"Когда приехал на вызов, увидел ужас, который не увидишь в кошмарном фильме ужасов. Мои коллеги, два фельдшера, останавливают кровотечение у мужчины. На полу лежит женщина. Рядом лежит ребенок с перерезанной шеей. Что в этот момент чувствует медработник? Кровь стынет, тело мертвеет, волос седеет... В 2 часа 46 минут я констатировал смерть ребенка.*

*Мои коллеги испытали еще большее потрясение. Когда вошли в квартиру, их встретил зверь в человеческом облике, который держал мертвого ребенка за ножку и бил об пол. Что в этот момент испытали мои молодые коллеги, только Богу известно".*

Ну а Бресте задержан мужчина, который грозился устроить взрыв в квартире своей сожительницы.

Что происходит с белорусами?



КРЫЖАВАНКА

# «Што за дзіва — кахаць!»

*(Крыжаванка прысвячаецца ўсім закаханым.)*

**Па гарызанталі:** 1."Як каралеўна, маладая,\\Хоць ты малюй на ..." — з верша Я.Мальца "Вясковае вяселле". 5."Кліча хлопец дзяўчыначку.\\Ён не сваю, ды чужую:\\Хадзі, ... , пацалую" — з беларускай народнай песні "Туман, туман пры даліне". 10.Выхаваўчая ўстанова для малых дзетак. 11.Той, каго асабліва любяць. 12.Калі на Калядах ... — ясна і на Пятра (прыкм.). 13."Ты — ..., ты — нашых краёў,\\Арыстакратка кахання" — з верша Р.Барадуліна "Арыстакратка". 14.Стан разважання (разм.). 16.Медны духавы інструмент. 17. ... да Евы заляцаўся, а ўсе вінаватыя (прык.). 18.Калі ў лютым трываюць моцныя маразы — ... гарачае (прыкм.). 19.Кароткая прывітальная застольная прамова. 20.Паэт і музыкант, выканаўца ўласных песень. 22.Не чакай з ... дараванага хлеба (прык.). 23.Тое, што і праснак. 24."А калі ... нечы\\Раптам губы твае апячэ,\\Ты ўспомніш" — з верша Г.Бураўкіна "Яшчэ доўга на ўсіх раздарожжах...". 30.Нашто лепшы ..., калі ў дзетках лад? (Прык.). 31.Зараснік вярбы. 32."Стынуць ..., бы дні.\\Што за дзіва — кахаць!\\Усміхніся, абдымі!\\Ты — мая благадаць!" — з верша Т.Дзям'янавай "Не чаруй, не мані.". 33."... нада мной жураўліная,\\Пада мною — балот віры" — з верша Ул.Караткевіча "О каханне маё бясконцае". 34."... здуру ажаніўся, ой-ёй-ёй!\\Навек жонкай падавіўся, ой, божа ж мой!" — з бел.нар.песні "Хлопец пашаньку пахае".

**Па вертыкалі:** 2."..., пакуты, узрушанасць, ростань\\І — каханне маё да яе" — з верша Л.Баршчэўскага "Безліч рэчаў няўцямных і простых". 3.Добрая жонка — вяселле, а ліхая — паганае ... (прык.). 4.Спартсмен-юнак. 6.Любімы зяць (ласк.). 7."Разгарнуць твае чорныя ...,\\Цалаваць а паўночнай цішы" — з верша К.Сваяка "Эрас і Псіхея". 8."Не за палямі мой пацалунак.\\Наша ... не за марамі" — з верша А.Глобуса "Ліст да каханай". 9.Тое, што і палюбоўніца. 15.Як мяне, ..., хлопцы любяць: як выйду на вуліцу, то за кулакамі свету не бачу (прык.). 16.І ... гукае, як пары шукае (прык.). 19."Устань, устань, маё ты ...!" — з паэмы Я.Купалы "Яна і я". 21."Дробны ...\\Ды накрапае,\\Выйдзі, дзяўчына,\\Сэрца жадае" — з бел.нар.песні "Дробны дождждык". 25.Лінія ўмацаванняў вакол чаго-небудзь. 26."Аб табе мая боль і трывога,\\мая ..., аб табе" — з верша Э.Акуліна "Наталлі". 27.Аддзяленне ад таго, што колецца, разбіваецца. 28.За добрым мужыком трасе ... кумпяком (прык.). 29."Я зваў у сведкі ...,\\Неба,\\Маё ж каханне не дайшло" — з верша П.Броўкі "З юнацкіх дзён".

**Лявон ЦЕЛЕШ.**



**Адказы**

**Па гарызанталі:** 1.Абразы. 5.Дзеўка. 10.Яслі. 11.Любімец. 12.Ясна. 13.Беларуска. 14.Одум. 16.Горн. 17.Адам. 18.Лета. 19.Спіч. 20.Бард. 22.Неба. 23.Корж. 24.Пацалунак. 30.Клад. 31.Вярбняк. 32.Ночы. 33.Чарада. 34.Хлопец.

**Па вертыкалі:** 2.Боль. 3.Зелле. 4.Юніёр. 6.Зяцёк. 7.Косы. 8.Пяшчота. 9.Каханка. 15.Мамачка. 16.Галубок. 19.Сонейка. 21.Дожджык. 25.Абвод. 26.Любая. 27.Адкол. 28.Баба. 29.Поле.

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл. (017) 3286871.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.01.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27290 экз. Заказ №225.**